РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

КОШТ 3 РУБЛІ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №15, 20 КРАСАВІКА 1993 ГОДА.



Праваслаўны свет сустрэў Вялікдзень. Хай Велікодны тыдзень прынясе мір і згоду ў людскія сэрцы.
Фота Алеся КУШНЕРА.

## СПРАЖЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

Некалі, яшчэ ў 60-я гады, французскія студэнты, якія бралі ўдзел у акцыях пратэсту супраць чыноўніцтва, прыдумалі новую своеасаблівую форму спражэння. Напрыклад: «Я маўчу, ты маўчыш, ён маўчыць, мы маўчым... Яны — святкуюць перамогу». «Я пратэстую, ты пратэстуеш, ён пратэстуе, мы пратэстуем... Яны — церпяць паражэнне!»

Днямі наша грамадства атрымала яшчэ адзін прадметны ўрок — і дэпутаты, і ўрад, і актывісты БНФ, іншых палітычных арганізацый, і проста грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета вырашыла прадэманстраваць сваю сілу. Вынік галасавання па пытанні аб далучэнні да ваеннага саюзу з Расіяй быў прадвызначаны. І што там пазіцыя спікера, што там выступленні дэпутатаў ад апазіцыі (і тых, хто проста не развучыўся думаць), што там мітынг пратэсту на плошчы Незалежнасці! Тут жа, у зале пасяджэнняў, заўсёды ёсць арыфметычная большасць. Але ёсць яшчэ і алгебра і нават вышэйшая матэматыка ў палітыцы, якая надта цяжка даецца бальшавісцкай свядомасці...

Рэферэндум, на якім законна настойваюць Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі і апазіцыя, здольны разбіць усе кабінетныя змовы і разлікі «націскальнікаў кнопак». Бо ў рэшце рэшт усенароднае апытанне можа фактычна стаць рэферэндумам аб даверы цяперашняму складу парламента, праверкай ягонай легітымнасці. Але так будзе толькі ў тым выпадку, калі мы не забудзем правіла палітычнай граматыкі: «Ты пратэстуеш, ён пратэстуе...»

Віталь ТАРАС.

(Працяг тэмы на стар.2)



## КАЛІ ЗОРКІ ЗАПАЛЬВАЮЦЬ...

*«... міжнародны рэгістр зорак надае зорцы ў сузор'і Аўрыга Ch 3m 30 sd 31° 46' імя Арсенія Н. Ваніцкага... Гэта імя занесена ў пастаянны спіс рэгістра зорак у Швейцарыі і занесена ў кнігу, якая будзе зарэгістравана ў службе аўтарскага права ЗША». Гэта выпіска з афіцыйнага дакумента, які днямі атрымаў старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі. Мы віншуем члена рэдкалегіі газеты «Культура» А.Ваніцкага з гэтай не зусім звычайнай падзеяй.*

*А яшчэ — мы хочам звярнуцца да нашых чытачоў.*

*Цудоўна, калі зоркі набываюць імёны людзей. Яшчэ больш прыемна, калі гэта імёны нашых суайчыннікаў — грамадскіх і культурных дзеячаў. Можна сказаць, што перад імі сёння расчынены ўвесь небасхіл, цэлы сусвет... Калі ж гаварыць сур'ёзна, газета «Культура» імкнецца і будзе імкнуцца аддаваць свае старонкі «зоркам» рознай велічыні — людзям, якія аддана працуюць на ніве Адраджэння Беларусі, улюбёным у сваю справу, родную гісторыю і культуру, людзям, якія дораць радасць сваёй творчасцю, прымушаюць нас разважаць над мінулым і будучым, а таксама пра людскія праблемы і клопаты.*

*Калі Вам патрэбны такія сустрэчы, калі Вам неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, калі Вам неабходна размова аб духоўным і паўсядзённым — Вам трэба неадкладна падпісацца на «Культуру».*

*І зусім трошкі аб прозе жыцця.*

**Кошт падпіскі на другое паўгоддзе — 180 рублёў. На тры месяцы — 90 рублёў. На месяц —30 рублёў.**

# ПАНЯДЗЕЛАК: ПАДЗЕІ, ІНФАРМАЦЫЯ, КАМЕНТАР



## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 18 красавіка адкрылася выстава народнай творчасці. Тут адбыліся прэзентацыя Саюза майстроў народнай творчасці Беларусі, продаж работ народных майстроў, выступленне фальклорных калектываў Цэнтра этнаграфіі і фальклору «Каляндар» Цэнтральнага раёна г.Мінска.

Саюз майстроў народнай творчасці Беларусі аб'ядноўвае майстроў розных відаў народнага мастацтва і традыцыйных мастацкіх рамёстваў Беларусі з мэтай адраджэння нацыянальнай культуры, развіцця традыцыйнай народнай творчасці, рамёстваў і народных промыслаў, умацнення іх уплыву на духоўнае развіццё грамадства.

- Днямі, падчас канцэртаў у Германіі групы «Раство» пад кіраўніцтвам кампазітара Юрыя Багаткевіча адбылася прэм'ера песні Л.Захлеўнага і Л.Пранчака «Тэлефон даверу».

## БЕЛАРУСКАЯ РУЛЕТКА

*Ёсць такі стары, што называецца, «барадаты» анекдот.*

*Сабраўся аднойчы хлапец у міліцыю запісацца. А расточку ў ім — метр з фуражкай.*

*— Куды ж ты, такі маленькі, ды ў міліцыю? — здзіўлена запыталі аднаяскоўцы.*

*— А вы не глядзіце, што маленькі — паскудства вялікага нарабіць магу!*

Недарэмна ўспомніўся мне гэты анекдот. Неадпаведнасць знешніх параметраў унутранаму стану рэчаў па даўняй завядзёнцы сталася ці не адметнейшай рысай нашага грамадства. Апошняя сесія Вярхоўнага Савета краіны ў чарговы раз падкрэсліла гэтую прыкрую адметнасць.

Галасаванні гэтай сесіі па вызначальных пытаннях канчаткова пераканалі тых, хто яшчэ спадзяваўся на дзяржаўных мужоў, у «пігмейнасці» гэтага парламента супраць Краіны, якую яны прадстаўляюць у свеце. Дэпутаты, у большасці сваёй партыйныя наменклатурныя чыноўнікі, выглядаюць нада здрабнелымі супраць тых праблемаў, якія парадзіла дзяржаўнасць. Ды і наогул, будзем шчырымі, ці можа адпавядаць сённяшні Беларусі парламент, мянушкай якога было б найменне «партийно-хозяйственный актив»?!

Ёсць яшчэ адзін момант, пра які неяк не прынята ўспамінаць, і гэтага сапраўды можна было не згадваць, каб пытанні апошняй сесіі — аб эканамічным і вайсковым саюзе — не тычыліся б так непасрэдна дзяржаўнай самастойнасці беларусаў. А маю я на ўвазе нацыянальны склад нашага парламента, які нават чыста механічна не адпавядае прапорцыям між народнасцей, якія складаюць народ Беларусі. Як тут не ўспомніць лозунг беластоцкіх беларусаў, якія сваё права на заканадаўчую ўладу спрабуюць рэалізоўваць пад дэвізам «Беларусы, пра свае справы — рашайма самі!»

Але перамога, на мой погляд, выглядае Піравай. Так, каманда Кебіча згуляла ва-банк. На кон пастаўлена вельмі і вельмі многае, і далучэнне «слаўных» міністэрстваў да ўрадавых планаў таму пацвярджэннем. Справа ў тым, што беларускасць як з'ява, якая ахоплівае прыярытэт нацыянальных інтарэсаў ва ўсіх сферах жыцця — ад палітыкі і эканомікі да культуры і свядомасці, — беларускасць такім чынам зноў трапіла ў адкрытую апазіцыю. Ці — ці? Больш таго, хто — каго? Менавіта такая формула палітычнага ладу сённяшняй Беларусі. І пытанне аб рэферэндуме недарэмна ўключана ў парадак дня наступнай сесіі. Ён — як запасны варыянт сённяшняй уладзе адысці ў палітычнае небыццё цывілізаваным шляхам.

У адваротным выпадку можна прагназаваць, што ні пастаўак нафты, ні эканамічнай ці фінансавай стабілізацыі Беларусь не атрымае. Праз некалькі месяцаў, пры ратыфікацыі эканамічнага саюзу, абмінуць пытанні кшталту «Што нам даў саюз?» і «Чаму ж мы не шукалі свае шляхі?» ураду будзе немагчыма.

Калі ўявіць, што Расія сама не захоча звязвацца з эканамічна нестабільнымі краінамі, то каронным аргументам нашых «ініцыятараў» у такім разе станецца тэзіс аб пошуках шляхоў ды незагаворлівасці партнёраў. І згуляць у прасцячка можна было б амаль беспакарана. Каб толькі не Час. Час — менавіта ён самы бязлітасны суддзя. І ён вырашыць, хто — каго.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**




## БЫЛО КРЫЎДНА...



Мы, жыхары Віцебска, чытачы вашай газеты, хочам падзяліцца сваімі ўражаннямі ад канцэрта, прысвечанага святу 8 сакавіка. Транслiравалі канцэрт па Беларускім нацыянальным тэлебачанні. Вядучымі былі Аляксандр Вавілаў і Алена Спірыдовіч. Нам, беларусам, было вельмі крыўдна за гэты канцэрт. Выступалі вядомыя спевакі: Кудрын, салістка ансамбля «Верасы» Ліка, Хлястоў, Гайда і інш., але спявалі на расейскай мове. Калі б не Алена Спірыдовіч — яна адзіная размаўляла на роднай мове, — дык нельга было б здагадацца: у якой дзяржаве адбываецца канцэрт? Калі гэты святочны канцэрт — віншаванне для рускіх, якія жывуць на Беларусі, то чаму не было нічога на мове палякаў, яўрэяў, татараў, украінцаў, літоўцаў і інш.? Можа, каб ведалі сваё месца, — маўляў, усё для «старэйшага брата»?..

Вельмі абурыла і тое, што вядучы Вавілаў звяртаўся да спадарыні Наталлі Машэравай па-руску. Мы шмат разоў чулі ў час фестывалю «Славянский базар» выступленні Машэравай на цудоўнай беларускай мове. Дык чаго ж да яе патрэбна было звяртацца па-расейску?

Але мы вельмі ўдзячныя паважаным «Песнярам», Ігару Аксюту, якія спявалі беларускія песні.

Усё ж такі хочацца запытацца ў арганізатараў гэтай імпрэзы: спадары, дзе ваша пачуццё нацыянальнай годнасці?

**У.ВАРАНЬКО, М.СІНКЕВІЧ.**

## КАБ РАТАВАЦЬ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ

З 22 па 25 красавіка, у сёмую гадавіну Чарнобыля, у Мінску адбудзецца III Міжнародны сімпозіум анка-гематолагаў. Як і ў мінулыя разы, да нас прыедуць вучоныя і ўрачы, вядучыя спецыялісты з Нямеччыны, Швейцарыі, Польшчы, каб распавесці аб новых метадах лячэння гематалагічных хвароб, дапамагчы беларускім урачам засвоіць новыя методыкі, а таксама разабрацца ў складаных сітуацыях падчас хваробы. Сярод іх — прафесары Г.Шэланг, Ф.Ламберт, Б.Карнхюбер, В.Герайн. Акрамя таго, яны прывязуць неабходныя лекі, рэактывы і прыборы для сучаснай дыягностыкі ў Рэспубліканскі анка-гематалагічны цэнтр.

— Для нас кожны такі сімпозіум мае вялікае значэнне, бо нашы ўрачы маюць магчымасць трымаць сувязь з вядучымі клінікамі Еўропы і такім чынам падтрымліваць наш цэнтр на агульнаеўрапейскім узроўні, — гаворыць дырэктар РДАГЦ, Вольга Алейнікава. — Акрамя таго, нам вельмі важная і матэрыяльная дапамога, бо складанасць дзіцячай гематалогіі ў тым, што яна патрабуе шмат антыбіётыкаў, стэрыльных раствораў, прэпаратаў крыві, не кажучы пра складанае абсталяванне. Адным словам: усё або нічога. Інакш лячэнне не выратуе дзіця. Тое, што мы маем, лічыцца з пункту гледжання звычайных клінік як бы залішнім, але для нас гэта неабходны мінімум: нашы дзеці літаральна на мяжы жыцця і смерці. Зараз востра стаіць пытанне аб будаўніцтве новага дзіцячага цэнтра, бо мы знаходзімся ў старым будынку, а там вольных месцаў даўно ўжо няма. У выніку мы губляем кожнага дзесятага з тых, хто павінен быў бы жыць. У пэўныя моманты нашыя пацыенты амаль безабаронныя перад любой інфекцыяй, таму вірус грыпа ці звычайнага герпеса можа стаць смяротным.

Не сакрэт — колькасць гематалагічных хворых няўхільна павялічваецца. На 90 працэнтаў гэта дзеці з вострай лейкеміяй, у якіх мы не маем права адымаць адзіны шанц на жыццё. Трэці год мы лечым гэтыя цяжкія захворванні па пратаколах, якія далі нам нямецкія калегі. Гэта вялікі крок наперад, бо да 1990 года мы мелі 15 працэнтаў выздараўлення ад вострага лімфалейкозу. Цяпер 70 працэнтаў дзяцей, якіх мы лечым па новых схемах, выздараўліваюць. А найбольш цяжкі варыянт вострага лейкозу — міелабластнага — ужо вылечваецца на 30 працэнтаў. Раней гэта было цалкам немагчыма — паміралі ўсе...

З дапамогай франкфурцкіх калег мы распрацавалі пратакол лячэння вострага міелабластнага лейкозу, улічваючы нашы ўмовы. Ён так і называецца: «Мінск — 92».

У хуткім часе наш горад можа стаць вядомым цэнтрам выратавання дзяцей, хворых на анка-гематалагічныя захворванні. Нездарма новы Цэнтр, мяркуецца, будзе найбуйнейшым у Еўропе. Для працы ў ім патрэбны спецыялісты, якія валодаюць сучаснымі ведамі, сапраўдныя прафесіяналы, здольныя змагацца за будучае рэспублікі, за нашых дзяцей. Таму кожныя два-тры месяцы прыязджае ў Мінск з Франкфурта-на-Майне прафесар Валянцін Герайн і часта, недасыпаючы начэй, дзяжурыць разам з мінскімі ўрачамі, разам з Вольгай Алейнікавай і іншымі энтузіястамі гадзінамі змагаецца за кволы агеньчык дзіцячага жыцця... Таму і едуць урачы з Жэневы і Цюрыха, не шкадуючы сваіх сіл і часу, на Беларусь.

Іх чакаюць Аксана Дзянісава, Алесь Палякоў, Сярожа Савін — нашы дзеці вельмі дарослыя, яны ведаюць, што такое патрэбныя лекі, прывезеныя ў час...

Іх чакаюць мінскія калегі — каму, як не ім, ведаць, што бясплатныя мінскія дзяўчынкі, якія змогуць нараджаць дзяцей няскора, ужо зараз набіраюць смяротны цэзій, які пачне дзейнічаць праз 1 — 2 пакаленні...

Мы жывём на вулкане — але розум не дарэмна дадзены Чалавеку. І дзеля сённяшніх і будучых дзяцей збярэцца ў Мінску Трэці міжнародны...

**Руслан КАЧАТКОЎ.**



*На здымку:*
Вольга АЛЕЙНІКАВА разам з замежным калегам

# ЗАХВАРЭЎ ПЁС...

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

Захварэў пёс мой беспародны, але сімпатычны Кундаль. Поўсць аж пасмамі губляе. А мо і не захварэў, а футра зімовае скідае. Так ці інакш, а да парады спецыяліста варта было б звярнуцца. Але дзе яго знойдзеш.

З сумнымі думкамі, як рады даць такой бядзе, шыбую я праспектам і раптам бачу: з шапіка «Саюздруку» пазірае на мяне мілая сабачая пыса. А вочы — ну, няйначай як у майго Кундля. Сумныя такія — пазіраюць на мяне з вокладкі часопіса «Собачья жизнь».

Як толькі на назву часопіса зірнуў — адразу надзея ў душы зацеплілася, — будзе мой сябар, «брат малодшы» мець прыстойны выгляд, бо дзе-дзе, а тут адшукаю я параду і на той конт, як фрызуру псу аднавіць. Прыгледзеўся ўважліва — з-за часопіса яшчэ адна газетка выглядае — «Верность». Ну, зусім пашчасціла. Я да кіяскёра: «Давайце і часопіс і дадатак!»

Схапіў і хуценька — давядацца як Кундлю дапамагчы. Прабег «Собачью жизнь» — няма, на жаль, зацемкі на цікавую для мяне і Кундля тэму. Я за дадатак... От, каб цябе Пярун! Не тое набыў. Ну, зусім не тое. Бо нават назву прыхапкам не да канца прачытаў. Не «Верность», а «За веру и верность» газета завецца, ды яшчэ гэтак мудрагеліста, з «яцямі» напісана. А на тым месцы, дзе я чакаў сабачы профіль угледзець — чамусьці птушка нейкая двухгаловая агромністы меч у кіпцюрах трымае... Не тое прыдбаў. Але, як той казаў: «Міла не міла, а грошы плаціла...» — трэ' прачытаць, што пішуць.

А газета аказалася не для сабакаводаў-кінолагаў і нават не для аматараў экзатычных птушак, а для «славян Белой Руси и Руси-Украины». Пачаў чытаць, а ўражанне такое, што ўсё ж нездарма газетка побач з «Собачьей жизнью» стаяла — шмат агульнага мае.

Тут і клопат аб «младших братьях», і заклік-каманда да іх трымацца вернасці Расійскай імперыі (?!). «Собачья жизнь» пісала, як выпрацоўваць у братоў нашых малодшых адэкватную (стасоўную) рэакцыю на каманду «К ноге!», газета таксама піша аб тым жа: «залогом решения всех проблем... является... восстановление единого и сильного отечества в его исторических границах». Гучна так ракоча каманда да «малодшых братоў» з «Белой Руси и Руси-Украины» як мага шчыльней кансалідавацца вакол нашмальцаванага вялікадзяржаўнага бота «национально-патриотического движения».

Далей ідзе адпрацоўка каманды «Голас!», і брэх гэты чуваць і ля падмурку Жоўтай Царквы ў Менску на Нямізе, дзе аблайваюцца «униаты-доброхоты» ды «местная нацдемовская пресса», і на ўзроўні міжнародных палітычных «аглядаў», дзе шавіністычная моська аж заходзіцца ад звягання на заходняга слана-імперыяліста. Але ж ужо зусім недарэчна па-блюзнерску гэты брэх гучыць над зямлёй Малдовы, палітай крывёю невядома як трапіўшых туды «казакаў» ды «так называемых молдован» (тэрміналогія газеты), якіх нейкі А.Абакумаў планує перайменаваць у «романо-россов» («любіў рак жабу — аж вочы выеў!»).

А вось у артыкуле «Христопродавцы» адпрацоўваецца ўжо каманда «Фас!». Словаблудны трэнінг адбываецца на фігурах сучасных палітыкаў Расіі, Украіны і Грузіі (Ельцын, Краўчук, Шэварднадзе і інш.), якіх аўтар (нейкі Свярбіхін) апрануў у футэйкі «местных князей и князьков». «Нашых» вялікадзяржаўныя шавіністы пакуль што не чапаюць (бо за што?) і нават пахвальваюць, паблажліва паляпваючы па плечуку мірных князькоў-сэрвілістаў. А як жа? Антыдзяржаўную газетку, якой нават сліны бракуе, калі прыходзіцца перакаўтнуць словы «суверэнітэт» ці «незалежнасць», без усялякіх перашкодаў адціснулі ў дзяржаўнай друкарні «Белой Руси».

Шматкаванне вопратак «князьковхристопродавцев» — гэта толькі адпрацоўка каманды, якая будзе выкрыстана не толькі супраць «ниспровергателей империи». Далейшыя накірункі карных акцыяў аўтар нават не збіраецца хаваць: гэта Балтыя, Каўказ, Сярэдняя Азія. Тут ён ужо недвухсэнсоўна акрэслівае, хто яму бачыцца ў постаці выканаўцы гэнае каманды. Пан Свярбіхін пасля «усмирения» Украіны (з Беларуссю, ён, мусіць, мяркує даць рады выключна сіламі мясцовай пятай калоны) плануе кінуць на крывавае ўтаймаванне мяцежных інародцаў армію, «где к счастью... есть честные офицеры, есть казаки, сыны славы и воли».

Газета адкрыта заклікае не толькі да грамадзянскай вайны, а маральна (правільней будзе сказаць — амаральна) даводзіць неабходнасць і карыснасць для Расіі, якая пагпыне ўжо на той час «Северо-Западный край и Малороссию», шэрагу імперыялістычных войнаў з мэтаю анексіі незалежных дзяржаў.

Не ведаю, ці то шчасце для В.Свярбіхіна, што ў ягоным «Отечестве» ёсць «сыны славы и воли» з нагайкамі ў руках. Дзякуй Богу, што ў нашай Айчыне такога «шчасця» няма. Але як жа свярбіць розным свярбіхіным пагойсаць і па нашых землях з упэўненай у крыў шматлікіх пакаленняў нашых землякоў нагайкаю. Але ведаў Бог, што не даў свінні рог... І таму вельмі сумуюць з гэтае нагоды аўтары газеткі «За веру и верность». І сум гэты выліваецца ў працягласе скуголенне аб тым, што «мы не можем не прийти к выводу о необходимости создания новой Российской империи в самом прямом и глубоком смысле этого слова»... (П. Тулаеў). А ўлічваючы, што для наступнага аўтара (С.Здановіча), які спяшаецца на старонках новай газеткі выказаць сваю вернасць хімерычным ідэалам імперыі, «естественно, ... что белорусы, украинцы и великороссы принадлежат к одной нации — русской», дык зразумела, які лёс нарыхтаваны сапраўдным беларусам.

А калі нехта яшчэ не зразумеў, чым пагражае нам з'яўленне на нашай зямлі чарговай газеткі, што нагадвае дадатак да часопіса «Собачья жизнь», дык аўтары паказваюць самі словамі свайго куміра мікалаеўскага прэм'ерміністра Сталыпіна: «...Так, панове, народы забываюцца іншы раз на свае нацыянальныя заданні; але такія народы гінуць, яны ператвараюцца ў гной, ва ўгнаенне, на якім вырастаюць і ўзмацняюцца іншыя дужэйшыя народы».

Вось так!

Самае дзіўнае — няўжо бээсэсэраўцы, якія зараз правяць баль у РБ (так яны называюць нашу Бацькаўшчыну), якія гвалтам цягнуць нас на злом карку да ваеннага саюзу, якія свядома патураюць друкаванню і распаўсюджванню такой «прэсы», цалкам згубілі інстынкт самазахавання. Няўжо яны не разумеюць, што агрэсіўныя шавіністы, якія выступаюць «За веру и верность», біялагічна ненавідзяць не толькі сапраўдных нацыянальна свядомых беларусаў, але і іх — «тоже белорусов», што прыслужнікі шалёнага імперскага Палкана рыхтуюць для ўсяго нашага народу адзіны Курапацкі дол, як тады, калі каты Сталіна з аднолькавым задавальненнем стралялі ў патыліцы «нацдэмаў» і «честных коммунистов».

Захварэў пёс. Патрэбныя тэрміновыя санітарна-эпідэміялагічныя захады.

**Віталь КОШАЛЕЎ,**
**дацэнт Мінскага медыцынскага інстытута, старшыня Мінскай рэгіянальнай Рады НДПБ.**

---

Леанід ЛЫЧ
Уладзімір НАВІЦКІ

# КУЛЬТУРА. НАВУКА. РЫНАК.

*(Працяг. Пачатак у №№ 12, 13)*

У нязвыклых, дакладней надзвычай цяжкіх для сябе варунках апынуліся апошнім часам культура і навука Беларусі. Упершыню за пасляваенны час галоўным крытэрыем дзейнасці творчай і навуковай інтэлігенцыі становіцца яе ўклад у справу культуры і навукі не ўвогуле, а толькі з улікам беларускага нацыянальнага інтарэсу. Па розных прычынах — і больш за ўсё суб'ектыўнага характару — далёка не кожнаму гэта падуладна, бо нацыянальным нігілізмам моцна прасякнута свядомасць і многіх прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі. Пакуль што яна робіць толькі першыя і часта нерашучыя крокі па шляху беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Зразумела, парасткі такога адраджэння маглі быць і больш важкімі, калі б Беларусь не ўступіла ў паласу зацяжнога эканамічнага крызісу. З кожным усплёскам інфляцыі ўсё большая патрэба адчуваецца ў фінансавых сродках, каб падтрымаць творчыя прафесійныя калектывы, установы культуры, мастацтва, друку.

Прыкметныя крокі па шляху пашырэння нацыянальнай тэматыкі робяць культурна-асветныя установы. Свае намаганні яны накіроўваюць на адраджэнне забытых святаў, абрадаў, традыцыйных відаў народнай творчасці. Упершыню за ўвесь пасляваенны перыяд пачала расці ўдзельная вага беларускай літаратуры ў фондах бібліятэк рэспублікі. Сярод музеяў пашыраецца сетка ўстаноў фальклорна- і гісторыка-этнаграфічнага накірункаў. Пачалі працаваць музей М.Багдановіча ў Мінску, Міёрскі гісторыка-этнаграфічны, Аршанскі музей этнаграфіі і льну, Музей кнігадрукавання ў Полацку. Але на працэс беларусізацыі ўстаноў культуры разбуральны ўплыў робіць рынкавая стыхія. Закрываюцца бібліятэкі, сельскія клубы.

У сучасным нацыянальным адраджэнні і выхаванні вялікае значэнне мае разумнае выкарыстанне помнікаў гісторыі і культуры. У 1987г. на тэрыторыі Беларусі знаходзіліся на ўліку 15210 помнікаў, сярод якіх 10048 помнікаў гісторыі, 2697 — археалогіі, 1253 — манументальнага мастацтва, 1212 — дойлідства. Нягледзячы на востры недахоп матэрыяльных і фінансавых сродкаў, усё ж праводзіцца пэўная работа па іх рэстаўрацыі, асабліва тых, што маюць непасрэднае дачыненне да гісторыі і культуры беларускай нацыі.

Пры ўсіх пазітыўных набытках адраджэнне беларускай нацыянальнай культуры ідзе цяжка. Акрамя яе глабальнай русіфікацыі гэтаму перашкаджае і практыка рэшткавага прынцыпу фінансавання. Калі ў 1990г. у краіне адлічэнні на культуру складалі 1,2 працэнта бюджэту, то на Беларусі — толькі 0,76 працэнта. З 1991г. асігнаванні на культуру былі павялічаны, але ўсё роўна яны не адпавядаюць сучасным патрабаванням.

З небывалымі фінансавымі цяжкасцямі сутыкнулася навука Беларусі. У 1989г. доля базавага бюджэтнага фінансавання АН БССР у нацыянальным даходзе рэспублікі склала ўсяго толькі 1,16 працэнта, што было ў 2,5 разы ніжэй за агульнасаюзны ўзровень. Нізкі памер заработнай платы вядзе да падзення прэстыжу навуковай працы, пачаўся адток здольных супрацоўнікаў за мяжу і ў іншыя сферы дзейнасці.

Стаць беларускай навуцы ўпоравень з задачамі сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння немагчыма без рэзкага павышэння якасці даследаванняў у галіне гуманітарных навук, асабліва гісторыі. Шматгадовае панаванне тут памылковых схем аб «поўнай і канчатковай перамозе сацыялізму», пабудове «развітога сацыялізму» і іншых дагматычных стэрэатыпаў не давала вучоным магчымасці аб'ектыўна аналізаваць працэсы, што адбываліся ў грамадстве. Цяпер у рэспубліцы робіцца пэўныя захады па паляпшэнні дзейнасці гуманітарыяў. Так, у Акадэміі навук створаны новыя навуковыя саветы па праблемах: асоба і яе сацыяльная ўзаемадзеянні; эканамічны суверэнітэт і рынак; матэрыяльная і духоўная культура беларусаў; беларуская мова і шляхі яе развіцця; гісторыя Беларусі. Намаганні вучоных-гуманітарыяў скіраваны ў першую чаргу на ліквідацыю «белых плямаў» у вывучэнні гістарычнай, духоўнай спадчыны беларускага народа. Але грамадазнаўчая навука працягвае адставаць ад патрабаванняў часу. Да таго ж вызначылася шкодная тэндэнцыя беспадстаўнага перагляду і некаторых пазітыўных старонак нашай гісторыі, якія былі і павінны застацца нашым нацыянальным гонарам. Калі выпусціць з-пад кантролю такі накірунак у гуманітарных навуках, гэтая чарговая кан'юнктуршчына можа прывесці да новага, не менш шкоднага паводле сваіх вынікаў дагматызму у навуцы.

Станоўчых зрухаў дабіваюцца нашыя вучоныя-аграрнікі, ад працы якіх у многім залежыць наш экалагічны стан. За апошнія гады яны вывелі дзесяткі новых гатункаў сельскагаспадарчых культур, стварылі шмат высокаэфектыўных сродкаў механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. Навізна і сучасны ўзровень навуковых распрацовак вучоных-аграрнікаў былі пацверджаны сотнямі аўтарскіх пасведчанняў і станоўчых рашэнняў на вынаходніцтвы. У 1992 годзе на базе Беларускага аддзялення УАСГНІЛ створана Акадэмія аграрных навук Рэспублікі Беларусь.

У 1991г. на Беларусі распачала дзейнасць новая для яе дзяржаўна-грамадская арганізацыя — Фонд фундаментальных даследаванняў пры Камісіі Прэзідыума СМ РБ па пытаннях навукова-тэхнічнага прагрэсу. Асноўнай функцыяй фонду з'яўляецца фінансавая падтрымка творчых навуковых калектываў і асобных навукоўцаў у вырашэнні актуальных навуковых праблем, якія выяўляюцца з дапамогай незалежнай экспертызы з ліку праектаў, пададзеных на абвешчаны конкурс.

Ажыццяўляемыя ў рэспубліцы захады па павышэнні ролі беларускай культуры і навукі ў адраджэнскіх працэсах — гэта яшчэ толькі першыя нясмелыя крокі ў дадзеным напрамку. Уся праца наперадзе. Толькі праз гіганцкія намаганні нацыянальна-свядомых прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі можна паспяхова дамагчыся таго, каб культура і навука Беларусі занялі пачэснае месца ў грамадстве, змаглі развівацца на карысць людзям, спрыяць іх духоўнаму росквіту.

*(Заканчэнне будзе.)*

# ЯН КАЗІМІ

## (1603-1672) КАРОЛЬ ПОЛЬШЧЫ АД 16

## МАЛАДОСЦЬ

Ян Казімір, сын караля Польшчы , вялікага князя Беларуска-Літоўскай дзяржавы і караля Швецыі Жыгімонта Вазы, не з'яўляўся кандыдатам на каралеўскі пасад. Ён быў малодшым сынам караля ад другога шлюбу і малодшым братам каралевіча Уладзіслава, слыннага прэтэндэнта на маскоўскі трон. Маці Яна Казіміра — аўстрыйская эрцгерцагіня Канстанцыя, малодшая сястра першай жонкі караля Жыгімонта Вазы і германскага імператара Фердынанда II.

Нарадзіўся Ян Казімір 22 сакавіка 1609г. у Кракаве і гадаваўся пры двары. Навучыўся некалькім мовам. Акрамя польскай добра ведаў лацінскую, нямецкую, італьянскую і французскую. Звестак пра навучанне беларускай мове няма. Але паколькі дзяржаўнай мовай Беларуска-Літоўскай дзяржавы была беларуская, то, хутчэй за ўсё, некаторыя веды ў гэтай галіне ён таксама меў, бо потым яму давялося — і шмат — займацца афіцыйнымі актамі дзяржавы.

Жыццё Яна Казіміра было неспакойным, напоўнена рознымі падзеямі і прыгодамі. У 1633 — 1634гг. ён разам з братам Уладзіславам удзельнічаў у Смаленскай вайне, у якой расійская армія баярына Шэіна са згоды цара вымушана была капітуляваць, аддаўшы саюзным польскім і беларуска-літоўскім войскам усю артылерыю. Потым, у 1635г. Ян Казімір браў удзел у Трыццацігадовай вайне, будучы палкоўнікам у аўстрыйскім войску. У 1637г. кароль Уладзіслаў накіраваў брата ў Вену з дыпламатычнай місіяй — прывезці каралю жонку, эрцгерцагіню Цэцылію Рэнату, дачку імператара Фердынанда II Габсбурга, па сутнасці, стрыечную сястру Уладзіслава. Ян Казімір зблізіўся з венскім дваром і Габсбургамі і ў 1638г. паехаў у Іспанію. Мэтаю было атрымаць там ад караля Іспаніі Філіпа IV Габсбурга чын іспанскага адмірала і пасаду віцэ-караля Партугаліі (Партугалія ў 1581 — 1640гг. была ў складзе валоданняў іспанскай кароны).

Падчас марскога падарожжа легкадумна затрымліваўся на стаянках у міжземнаморскіх портах Францыі. Якраз у гэты час Францыя ваявала з Іспаніяй. Па загаду прэм'ер-міністра Францыі ўсемагутнага кардынала Рышэльё ў маі 1638г. Ян Казімір быў затрыманы ў адным з портаў, арыштаваны і кінуты ў вязенне. Толькі праз два гады па просьбе кіраўніцтва Рэчы Паспалітай у лютым 1640г. каралевіч быў вызвалены і вярнуўся дадому.

У маі 1643г. Ян Казімір Ваза зноў едзе ў Еўропу. На гэты раз у Італію. Там насуперак волі караля, свайго брата, нечакана ўступае ў ордэн езуітаў. Але года толькі хапіла каралевічу вытрымаць манастырскія патрабаванні. І хоць кароль Уладзіслаў ужо пагадзіўся з абраным духоўным лёсам свайго брата, Ян Казімір неспадзявана выйшаў з ордэна езуітаў і хутка атрымаў сан кардынала. Але адзенне насіў свецкае, вярнуўся ў Польшчу і нават пачаў думаць пра жаніцьбу. Усё гэта складвала пра яго меркаванне як пра чалавека няпэўных, зменлівых пазіцый і жаданняў.

## І КАРОЛЬ, І КНЯЗЬ

Кароль Уладзіслаў Ваза памёр 20 мая 1648 года. Гэта супала з пачаткам вялікага казацка-сялянскага паўстання на Украіне на чале з гетманам Багданам Хмяльніцкім. У Рэчы Паспалітай пачалася падрыхтоўка да выбараў новага караля. Дзве групоўкі магнатаў і шляхты вылучылі двух кандыдатаў на трон. Адным быў самы малодшы брат нябожчыка-караля Караль Фердынанд Ваза, каталіцкі біскуп. Яго падтрымлівала тая групоўка, якая патрабавала рашучай вайны супраць украінскіх казакоў і жорсткай расправы паўстання. Другая групоўка дамагалася пагаднення з казакамі, каб потым пачаць вайну хрысціянскіх дзяржаў супраць мусульманскай Турцыі і яе васала — Крымскага ханства. На чале гэтай групоўкі стаяў вялікі канцлер каронны Ежы Асалінскі, каралева-ўдава Марыя Людвіка Ганзага-Мантуанская, другая жонка караля Уладзіслава Вазы, за якой стаяла Францыя.

Кандыдатуру Яна Казіміра падтрымалі імператарскія і папскія дыпламаты. Караль Фердынанд адмовіўся ад высокае пасады, і 20 лістапада 1648г. на сойме шляхта абрала каралём Яна Казіміра. Так ён стаўся каралём польскім і вялікім князем Беларуска-Літоўскага гаспадарства. Адначасова аўтаматычна атрымаў тытул караля Швецыі (хаця ім ніколі не быў). Яго бацька Жыгімонт Ваза ў свой час з'яўляўся каралём Швецыі, але быў скінуты з трона роднымі дзядзькам. Прадстаўнікі беларуска-польскай галіны дынастыі Вазаў не адмаўляліся ад шведскага трона, часам нават вялі войны са шведскай галіной фаміліі. Усе свае акты, якія Ян Казімір цяпер падпісваў, ён пазначаў не толькі агульнапрынятай датай, але



і гадамі свайго панавання як караля польскага і «караля шведаў і готаў».

17 студзеня 1649г. Ян Казімір быў каранаваны ў Кракаве і, атрымаўшы ад папы адпаведны дазвол, вызвалены ад духоўнага звання. Гэта дало магчымасць ажаніцца з каралевай-удавой Марыяй Людвікай, якой было 38 гадоў. Ад гэтага шлюбу нарадзілася дзяўчынка, пражыла год, і хлопчык, які пражыў паўтара месяца. Больш дзяцей у сям'і не было, сам Ян Казімір стаў наогул апошнім прадстаўніком дынасты Вазаў (па мужчынскай лініі дынастыя Вазаў у Швецыі выгасла ў 1632г., калі вядомы палкаводзец Трыццацігадовай вайны кароль Густаў II Адольф загінуў у бітве).

## «НЯДОЛЯ КАРАЛЕЎСТВА»

Так назваў час панавання Яна Казіміра ў Рэчы Паспалітай адзін з ягоных сучаснікаў. І сапраўды, усе дваццаць гадоў валадарання апошняга Вазы — гэта суцэльны ланцуг войнаў, захопу тэрыторы Польшчы і Вялікага княства Літоўскага рознымі ворагамі, перш за ўсё Расіяй і Швецыяй, гэта час паўстанняў казакоў і сялян, эпідэмій і голаду, вынішчэння насельніцтва. Аднак гэта і перыяд барацьбы за незалежнасць дзяржавы, за самастойнасць як Польшчы, так і Беларуска-Літоўскага гаспадарства, барацьбы розных саслоўяў феадальнай федэратыўнай дзяржавы — шляхты, гараджан і сялян.

Адразу пасля абрання каралём Ян Казімір праводзіў памяркоўную палітыку ў адносінах да Багдана Хмяльніцкага, разлічваючы на пагадненне і прыцягненне гетманскай Украіны да плануемай вайны з Турцыяй. Аднак ужо ў 1649г. рэчаіснасць паказала, што такая палітыка нерэальная.

Улетку 1649г. Ян Казімір сам сабраў армію і выступіў у паход, каб вызваліць крэпасць Збараж ад казацка-татарскай аблогі. Пасля бітвы, якая адбылася каля Зборава, быў падпісаны мір, паводле якога прызнавалася аўтаномія трох украінскіх ваяводстваў у складзе Польшчы. Наступная вайсковая кампанія 1651г. закончылася перамогай польскіх войскаў над казацка-татарскай арміяй у бітве пад Берасцечкам і новым мірам, які скарачаў тэрыторыю аўтаномнай Украіны да межаў аднаго Кіеўскага ваяводства.

У гэты час значная частка тэрыторыі Беларусі была таксама ахоплена сялянскімі паўстаннямі, якія ад 1648 да 1651 гг. падмацоўваліся казацкімі загонамі. Багдан Хмяльніцкі кідаў іх на Беларусь, каб адцягнуць беларуска-літоўскае войска ад паходаў на Украіну. З вялікай цяжкасцю гетману польнаму літоўскаму Янушу Радзівілу ўдалося падавіць паўстанне і разбіць казацкія атрады.

## НАПАД РАСІІ І ШВЕЦЫІ

Чарговае выпрабаванне вытрымала Рэч Паспалітая ў 1654 — 1655гг., калі расійскія войскі на чале з царом Аляксеем Міхайлавічам пачалі наступ на тэрыторыю Беларусі разам з украінскімі казакамі наказнога гетмана Залатарэнкі. Пасля баёў у 1654г. маскоўскія войскі здабылі Смаленск, Полацк, Віцебск і іншыя гарады і мясцовасці. Гарады і крэпасці баранілі не толькі вайсковыя гарнізоны, але і шляхта, гараджане, часам сяляне. Войска вялікага гетмана літоўскага Януша Радзівіла з 10 тысяч чалавек манеўравала, каб супрацьстаяць на Беларусі тром расійскім арміям і войску ўкраінскіх казакоў агульнай колькасцю каля 100 тысяч. У 1655г. была захоплена амаль уся Беларусь, за выключэннем Берас-



# ...р ВАЗА



## ...8г. ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ

цейскага і часткі Навагрудскага ваяводстваў ды гарадоў-крэпасцяў Слуцка і Быхава. Ворагі ўзялі сталіцу дзяржавы Вільню і горад Коўна. Царскія ратнікі і атрады дваранскай конніцы палілі гарады і вёскі, рабавалі маёмасць, забівалі ці выводзілі ў палон людзей. Цар планаваў вывезці ў Расію 300 тысяч чалавек, здольных рамеснікаў-майстроў (як Чынгісхан) і сялян, каб падараваць расійскім памешчыкам новых прыгонных. Аляксей Міхайлавіч, абвясціўшы сябе вялікім князем літоўскім і дадаўшы да свайго тытула словы «гасудар і вялікі князь Белае Русі», далучыў захопленыя землі да Расіі.

Тады ж, улетку 1655г. шведскі кароль са сваёй арміяй захапіў амаль усю тэрыторыю Польшчы, за выключэннем усходніх і ўкраінскіх ваяводстваў і Падляшша, заняў частку Літвы. Захапіўшы большую частку Польшчы, шведскі кароль Карл Х Густаў прапанаваў цару Аляксею Міхайлавічу план падзелу Рэчы Паспалітай, аддаючы ўкраінскія землі да Галіча ці Львова праз Луцк да Прыпяці, потым беларускія землі па лініі Слуцк, Менск, Докшыцы і Дзісна. Але цар адмовіўся, бо ягоныя войскі паспяхова працягвалі захоп беларускай тэрыторыі. Нашто ж дзяліцца здабычай?

20 кастрычніка 1655г. Януш Радзівіл з групай паноў і шляхты заключыў у Кейданах акт дзяржаўнай уніі Вялікага княства Літоўскага са Швецыяй, прызнаючы караля Карла Х Густава сваім вялікім князем. Аднак значная частка беларускай і літоўскай шляхты на чале з Паўлам Сапегам, ад 1656г. ваяводам віленскім і вялікім гетманам літоўскім, працягвала барацьбу з заваёўнікамі.

Кароль Ян Казімір, пацярпеўшы паражэнне, у лістападзе 1655г. выехаў да Аполя ў Сілезію, але праз месяц вярнуўся, каб гуртаваць сілы супраць ворага на чале з палкаводцам С.Чарнецкім. Пачаўся шырокі народны рух — шляхты, мяшчан і сялян — супраць шведаў. У 1656г. польскія войскі нанеслі ворагам знішчальны ўдар. Ян Казімір кіраваў войскам, якое ў чэрвені 1656г. вызваліла Варшаву. Цар Аляксей Міхайлавіч, захапіўшы вялікую тэрыторыю, вырашыў падпісаць з каралём замірэнне, а сам пачаў вайну са Швецыяй за Прыбалтыку.

А ў гэты час супраць Рэчы Паспалітай выступіла кааліцыя Швецыі, Брандэнбурга, Трансільваніі і Украіны. Саюз быў падпісаны ў снежні 1656г. у вёсцы Раднот (па-румынску Ернут). Пас-



ля перамогі Швецыя павінна была атрымаць каралеўскую (гэта значыць польскую) Прусію з Гданьскам, Ліфляндыю, Курляндыю, частку Літвы і Мазоўша; Брандэнбург — Вялікую Польшчу з Познанню, Хмяльніцкі — усю Украіну, усё астатняе — трансільванскі (сямігародскі) князь Юрый II Ракачы, а ваяводства Наваградскае планавалася пераўтварыць у асобнае княства для слуцкага князя Багуслава Радзівіла.

У 1657г. Ракачы спрабаваў захапіць Польшчу, але быў разбіты. Расія працягвала вайну ў Ліфляндыі, але беспаспяхова.



У гэты час Ян Казімір змяніў саюз з імператарам, бо Аўстрыя не дапамагла Рэчы Паспалітай. Цяпер кароль пачаў арыентавацца на Францыю, дзе каралём быў Людовік XIV. Кароль, якога моцна падтрымлівала каралева Марыя Людвіка і якая мела на яго вялікі ўплыў, распрацаваў план рэформы дзяржаўнага ладу Рэчы Паспалітай. Ён прапанаваў выбіраць новага караля не пасля смерці папярэдніка, а пры жыцці, каб не было безуладдзя ў час міжкаралеўя. Аднак сойм 1660г. і соймікі 1661г. выказаліся супраць такой рэформы. Узмацненне цэнтральнай улады не адбылося.

### АПОШНІЯ ГАДЫ ПАНАВАННЯ

Паступова палітычнае становішча Рэчы Паспалітай паляпшалася. Ворагі не маглі канчаткова дамовіцца аб сумесных дзеяннях, пачалі цярпець паражэнні і паступова выходзілі з вайны. У 1657г. быў падпісаны мір з Брандэнбургам і Прусіяй, у 1660 — са Швецыяй. Нават з казацкай старшынай Украіны ў 1658г. была падпісана Гадзяцкая ўмова, паводле якой Украіна, якая папярэдне адмовілася ад саюза з Расіяй, уваходзіла ў склад Рэчы Паспалітай у якасці трэцяга члена федэрацыі (так званае княства Рускае). Праўда, праз год другая частка старшыны (расійскай арыентацыі) адмовілася ад уніі, каб вярнуцца ў склад Расіі на правах аўтаноміі.

Вайна з Масковіяй на тэрыторыі Беларусі была ўзноўлена ў 1658г. Ад 1660г. аб'яднаныя польска-беларускія войскі разам з мясцовымі атрадамі пачалі наносіць удары расійскім войскам. У 1660г. войскі пад камандаваннем С.Чарнецкага нанеслі расійскім войскам цяжкае паражэнне каля Палонкі і Чарэі. У 1661г. маскоўскаму ваяводзе Хаванскаму было таксама нанесена паражэнне пад Кушлікамі на Полаччыне. У лютым 1661г. паўсталі мяшчане Магілёва на чале з бурмістрам Леановічам і за адну ноч перабілі расійскі гарнізон. Мяшчане Дзісны, Себежа, Гомеля і іншых гарадоў таксама або знішчылі, або выгналі царскія фармаванні. У снежні 1661г. была вызвалена сталіца краіны — Вільня. Такім чынам, царскія войскі былі выцеснены з тэрыторыі Беларусі. У студзені 1667г. у Андрусаве (недалёка ад Мсціслава) было падпісана замірэнне на трынаццаць з паловай гадоў. Маскоўская дзяржава захавала Смаленск і левабярэжную (па Дняпры) Украіну. У Прыбалтыцы Расія не займела нічога.

Страты на Беларусі былі неймавернымі. Гэта была нацыянальная трагедыя беларускага народа. Загінула, было забіта, вымерла ад голаду і эпідэмій, вывезена сілком у Расію палова насельніцтва Беларусі. Насельніцтва Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і Менскага ваяводстваў скарацілася на 60 — 70 працэнтаў. Тут застаўся толькі кожны трэці. Страты Навагрудскага, Берасцейскага і Віленскага ваяводстваў у людзях складалі 35 — 45 працэнтаў. Праваслаўны патрыярх Антыёхіі Макарый III (араб па нацыянальнасці) праязджаў у гэты час праз Беларусь у Маскву, і ў яго дарожным дзённіку знайшлі адлюстраванне жахлівыя малюнкі, якія ён бачыў на сваім шляху. Прызвычаены да жорсткасці на Блізкім Усходзе, ён з цяжкасцю мог паверыць у тыя нялюдскія ўчынкі, якія рабілі войскі маскоўскага цара ў заваяванай краіне.

Супраць Яна Казіміра і яго планаў умацавання цэнтральнай улады ў дзяржаве ў Польшчы склалася апазіцыйная групоўка на чале з гетманам польным каронным Ежы Сэбастыянам Любамірскім. У 1665г. яна падняла рокаш супраць караля. Хаця спачатку ракашане перамаглі каралеўскае войска, але потым мусілі капітуляваць. Любамірскага суд прыгаварыў да баніцыі (выгнання з радзімы). Але і спроба рэформаў была сарваная.

Новая бяда напаткала Яна Казіміра. У траўні 1667г. памерла ягоная жонка Марыя Людвіка, пастаянная дарадчыца, пад уплывам якой ён заставаўся да канца іх супольнага жыцця. Доўга кароль быў у смутку. Планы рэформаў не здзейсніліся, Рэч Паспалітая шмат пацярпела ў часе войнаў, частка тэрыторыі была страчана. Федэратыўная дзяржава аслабела. Усё




гэта прывяло караля да думкі адмовіцца ад трона. 16 верасня 1668г. Ян Казімір зрабіў гэты крок — адрокся ад трона і назаўсёды выехаў у Францыю да свайго саюзніка караля Людовіка XIV.

Памёр Ян Казімір 16 снежня 1672г. у горадзе Неверы. Цела караля было перавезена ў Польшчу і ўрачыста пахавана ў студзені 1676г. у Кракаве ў касцёле на Вавелі.

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ.**

*На здымках:*

1. Ян Казімір Ваза.
2. Мінск. Рэшткі былога дамініканскага касцёла XVIIст. Гарматная байніца ніжняга бою. Раскопкі Зянона Пазьняка.
3. Барталамей Стробель (1591 — 1650)? Партрэт Януша Радзівіла. 1633 — 1634. Знаходзіцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.
4. Бернардзінскі касцёл у Гродне. XVII — XVIII стст.
5. Прылада для вырабу куляў (кулялейка). XVIIст. Раскопкі Алега Трусава ў Мсціславе. Друкуецца ўпершыню.
6. Фрагмент вапняковага партала Брыгіцкага касцёла ў Гродне, 1647 г.




**Антанэн АРТО (1896 — 1948), прадстаўнік славутай французскай традыцыі «выклятых паэтаў», найбольш вядомы як тэарэтык мастацтва і стваральнік знакамітага «тэатра жорсткасці». Здаецца, кожны ягоны твор — гэта спроба сапраўднага, татальнага ў сваёй шчырасці ўчынку. Мастацтва, на думку Арто, чаго-небудзь вартае толькі тады, калі мастак не шкадуе сваёй крыві і плоці дзеля метафізічнае і эстэтычнае рэвалюцыі ў самім чалавеку ды наўкола яго. Мастацтва патрабуе ад творцы самаахвярнасці, бо «калі я паэт ці акцёр, то не дзеля таго, каб пісаць ці дэкламаваць вершы, але каб пражыць іх».**




## ТЭАТР І ВУЧОНАСЦЬ

Сапраўдны тэатр мне заўсёды здаваўся выкананнем нейкага жудаснага і небяспечнага дзеяння,

у якім, да таго ж, знікаюць нават паняцці тэатра і спектакля, гэтаксама як уяўленне пра ўсялякую навуку, усялякую рэлігію ды ўсялякае мастацтва.

Дзеянне, пра якое кажу, мае за мэту сапраўдную фізічную і арганічную трансфармацыю чалавечага цела.

Чаму?

Таму што тэатр — зусім не той парад на сцэне, дзе прыхавана і сімвалічна разгортваюць які-небудзь міф,

але (ж) сапраўды тыгель агню і плоці, дзе анатамічна,

у шоргаце касцей, членаў і частак словаў пераствараюцца целы і паўстае фізічна і ў натуральнай велічыні міфічнае дзеянне: стварэнне цела.

Калі добра мяне зразумеюць, то здолеюць убачыць у гэтым акт сапраўднага першапачатку — хаця тое ўсім нават здавалася б недарэчным і смешным з пункту гледжання звычайнага жыцця.

Бо ніхто цяпер не можа даць веры, што цела могуць змяніць не толькі бег часу, але і смерць.

Дык вось, я кажу ізноў: смерць — гэта выдуманы стан,

які існуе толькі для ведзьміных панчохаў, для ўсіх гэтых гуру небыцця, якія атрымоўваюць прыбытак і ўжо колькі стагоддзяў харчуюцца з яго

і дзякуючы таму жывуць нібыта спяваюць.

Па-за ўсім гэтым цела чалавека ёсць бессмяротным.

## ЛІСТ ДА РЭКТАРАЎ ЕЎРАПЕЙСКІХ УНІВЕРСІТЭТАЎ

Пане рэктару!

У цесным катуху, які Вы завяце «Мысленнем», промні розуму гніюць, быццам салома.

Досыць гульняў з мовай, сінтаксічных хітрыкаў, жанглёрства фармулёўкамі: цяпер неабходна вынайсці велічны Закон сэрца — Закон, які мае быць не звычайным законам і турмой, але ж павадыром Духа, заблукаўшага ў лабірынце ўласнага «Я». Далей за ўсё, чаго магла б калі-небудзь крануцца навука — там, дзе промні разважнага сэнсу ламаюцца аб аблокі, — існуе гэты лабірынт, цэнтр сыходжання ўсіх сілаў быцця, апошніх атожылкаў Духа. Наш Дух блукае ў гэтым лабірынце рухомых і заўжды недарэчных сценаў, падпільноўваючы свае найбольш патаемныя і нечаканыя крокі — тыя, што выглядаюць на адкрыццё, на подых ветру аднекуль, ці не з нябёсаў.

Аднак раса прарокаў атухла. Еўропа застывае і паволі ператвараецца ў мумію пад цяжарам сваіх межаў, заводаў, судоў, універсітэтаў. Замарожаны Дух трэскае спаміж спарахнелых маснічын, з якіх на ім ладзяць падлогу. І вінаватыя ў гэтым вашы спляснелыя сістэмы, ваша логіка два на два чатыры, вінаватыя ў гэтым вы, рэктары, трапіўшыя ў сіло сілагізмаў. Вы вырабляеце інжынераў, суддзяў, дактароў, якія не зважаюць на сапраўдныя таямніцы цела і касмічныя законы быцця; ілжэ-навукоўцаў, якія не здольныя нічога ўбачыць па той бок зямлі; філосафаў, якія пнуцца перабудаваць Дух. Нават найменшая дзея спантаннай творчасці ёсць больш складаным і патаемным актам, чымсьці якая-кольвечы метафізіка.

Адчапіцесь жа ад нас, панове: вы ўсяго толькі узурпатары. Па якім праве вы ўзяліся накіроўваць развіццё розуму і прысуджваць дыпломы Духа?

Пра Дух вы не ведаеце нічога, вы не заўважаеце ягоных найбольш утоеных, найбольш істотных адгалінаванняў, тых выкапнёвых адбіткаў, што гэтак блізкія да нашых уласных вытокаў, тых слядоў, што зрэдку нам шчасціць знайсці ў найцямнейшых пакладах нашага мозга.

Нават ад імя вашай логікі мы кажам вам: жыццё смуродзіць, панове. Зірніце на вашыя твары, паглядзіце на вашу работу. Скрозь сіта вашых дыпломаў праходзіць змарнелая, згубленая моладзь. Свет паранены вамі, панове, і для гэтага свету тым нават лепей, але хай жа б ён крыху менш зважаў на вучоны розум чалавецтва.

## ПРА САМАГУБСТВА

Перад тым як забіваць сябе, я прашу, каб мяне пераканалі ў маім існаванні, я хацеў бы быць упэўнены ў існаванні смерці. Жыццё мне ўяўляецца адно толькі згодай на бачную зразумеласць рэчаў і на іхняе злучэнне духам. Я ўжо не адчуваю сябе неадольным скрыжаваннем рэчаў; смерць ачуньвае, раз'ядноўвае нас і прыроду, але што, калі я толькі рэшта болю, праз якую рэчы не паміраюць?

Калі я заб'ю сябе, то не дзеля таго, каб сябе знішчыць, але каб сябе аднавіць: самазабойства адно толькі мае дапамагчы мне шалёна адваяваць сябе, нястрымна ўварвацца ва ўласнае існаванне, апярэдзіць — няпэўны рух Бога. Самазабойствам я наноў праектую сябе ў прыроду, я ўпершыню надаю рэчам форму маёй волі. Я вызваляю сябе ад умовы мець гэтыя органы, што так няўдала прыладжаны да майго «я», і жыццё для мяне ўжо не будзе нейкай абсурднай выпадковасцю, дзе нельга думаць іншае ад таго, аб чым мне наканавана думаць. Такім чынам, я абіраю сабе мысленне і накірунак сваіх дзеяў, імкненняў, сваёй рэчаіснасці. Я змяшчаю сябе паміж пачварнасцю і прыгажосцю, паміж ліхам і дабром. Я раблюся нібыта падвешаным, без аніякага пахілу, нейтральным, раблюся здабычай раўнавагі добрых і благіх памкненняў.

Паколькі жыццё само па сабе нічога не вырашае, яно не мае нічога агульнага з існаваннем па выбары, згодзе, уласным рашэнні.

Жыццё — толькі шэраг жаданняў і супрацьлеглых сілаў, маленькіх супярэчнасцяў, якія да чаго-небудзь прыводзяць ці знікаюць — у залежнасці ад абставінаў гнюснай выпадковасці. Ліха закладзена ў кожным з нас няроўна — як геній, як вар'яцтва. Дабро, як і ліха, — вынік абставінаў і ў нейкай ступені жыццядайнай патэнцыі.

На маю думку, агідна быць створаным і жыць, калі адчуваеш сябе нават у найменшых праявах, у найменш асэнсаваных момантах свайго існавання няўмольна прадвызначаным. У рэшце рэштаў, мы адно толькі дрэвы, і зусім верагодна, што на якім-небудзь заломе дрэва майго радаводу пазначана, што ў дадзены дзень я заб'ю сябе.

Нават сама ідэя свабоды самагубства валіцца, нібы падсечанае дрэва. Я не ствараю ні часу, ні месца, ні абставінаў майго самазабойства. Я нават не вынаходжу сам гэты намер — дык ці не адчую я што-небудзь, калі мяне вырвуць з карэннем адсюль?

Магчыма, у гэты момант маё існаванне растворыцца, аднак, калі яно застанецца суцэльным — як змогуць адгукнуцца мае знішчожаныя органы, якім чынам я заўважу сваю адсутнасць?

Я адчуваю на сабе подых смерці нібы нейкі струмень, нібы вокамгненны кідок маланкі, магутнасць якога я нават не магу сабе ўявіць. Смерць мроіцца мне асалодай, віхрூчымі лабірынтамі. І дзе ж там, сярод іх, думка пра маё існаванне?

Але вось, знянацку, пан-Бог — нібы штуршок, нібы ўзмах касой святла. Я свядома развітаўся з жыццём, я наважыўся паражыць уласны лёс!

Ён, гэты Бог, авалодаў мной ажно да абсурду; ён прытрымліваў маё жыццё ў пустэчы адмаўленняў і бязлітасных выракаў ад сябе самога, ён вынішчыў ува мне нават найменшыя памкненні свядомага, прачулага жыцця. Ён прымусіў мяне быць нейкім аўтаматам, які спраўна дзейнічаў, але ўсё ж такі аказаўся здольным адчуць крах сваёй свядомасці.

І вось тады я захацеў давесці, што жыву, захацеў уз'яднацца са звонкай сапраўднасцю рэчаў і



зламаць няўхільнасць уласнага лёсу.

А гэты Бог, што кажа ён?

Я не адчуваў жыцця; колазварот усялякай духоўнай ідэі паўставаў перада мной быццам перасохлая плынь. Жыццё не было для мяне рэччу, не было формай: яно было сумай развагі. Развагі, што марна беглі па крузе, развагі, што нікуды не беглі, а былі ўва мне нібыта нейкія «комплексы», якія мая воля няздольная была зафіксаваць.

Нават каб дайсці да стану самагубства, мне неабходна было дачакацца вяртання майго «Я», мне патрэбна свабодная гульня ўсіх складнікаў майго існавання, Бог увагнаў мяне ў роспач, нібыта ў сузор'е тупікоў, чые промні сыходзяцца на мне. Я не магу ні памерці, ні жыць, ні нават жадаць памерці ці жыць. І ўсе людзі да мяне падобныя.

## ПОСТСКРЫПТУМ

Хто я?
Адкуль я прыйшоў?
Я Антанэн Арто
і варта мне гэта прамовіць
як я ўмею гэта прамовіць
зараз жа
Вы ўбачыце як маё цяперашняе цела
разляціцца аскепкамі
і як збярэцца
з дзесяці тысячаў агульнавядомых абліччаў
новае цела
у якім вы не зможаце
на мяне пазабыцца.

**Пераклаў з французскае Юрась БАРЫСЕВІЧ.**
**Пераклад зроблены з «Poètes maudits d'aujourd'hui», Парыж, 1972 г.**

# «ПАЧУВАЎ СЯБЕ БЕЛАРУСАМ...»

*Мікола СКОРЫКАЎ — зорка беларускай эстрады — тры месяцы гасцяваў і гастраляваў у Амерыцы. Падзяліцца ўражаннямі аб сваёй нядаўняй паездцы ён згадзіўся ў гутарцы з нашым карэспандэнтам Вольгай ШЧАДРЫНОЙ.*



**— Канцэрты ў далёкім замежжы — пакуль што даволі рэдкая з'ява для беларускіх артыстаў. Раскажыце, з чаго ці з каго пачалося Ваша знаёмства з Амерыкай?**

— У 1991 годзе я ўпершыню трапіў у ЗША. Паездка была арганізавана па лініі маладзёжных арганізацый. Мы давалі канцэрты і проста знаёміліся з амерыканскім жыццём. І вось, калі трэба было ад'язджаць, з-за нейкай арганізацыйнай недакладнасці нам замест аднаго рэйса далі зусім іншы, і мы на тры дні мусілі затрымацца. Сядзелі б мы ў аэрапорце імя Кенэдзі, каб не мае знаёмыя са штата Нью-Джэрсі — сям'я Грынбергаў. Некалі я вучыўся з Наташай Грынберг у музычным вучылішчы, а пасля — у кансерваторыі. Я патэлефанаваў ім, і яны прыехалі за намі. Дарэчы, запрасілі да сябе яшчэ восем чалавек з нашай дэлегацыі. Словам, прынялі нас цудоўна. Жывуць яны ў горадзе Іст Брансвіку. А праз невялікую вуліцу — горад Саўт Рывер, цэнтр беларускай эміграцыі штата Нью-Джэрсі. На той час у Саўт Рыверы ўжо жыў кампазітар Я.Магаліф, з якім мы таксама былі добрыя знаёмыя па Мінску. Ён арганізаваў нам канцэрт перад беларускай дыяспарай. Так завязаліся кантакты. Мяне запрасілі прыехаць яшчэ. Калі я вярнуўся ў Мінск, пачаў шукаць спонсара. Падабралася і добрая «каманда» артыстаў. Магаліф заняўся арганізацыяй гастроляў. Дарэчы, без яго актыўнага ўдзелу наша паездка не адбылася б. Мы вельмі ўдзячныя і Міхасю Сеньку, братам Бычкоўскім, Васілю Смалю, сям'і Літаровічаў і шмат каму яшчэ за гасціннасць і вельмі цёплы прыём.

**— Хто фінансаваў вашу паездку, і ў якім складзе вы паехалі ў Амерыку?**

— Фундатарам нашай паездкі стала Гомельская аграпрамысловая фірма «Альтэрнатыва». Яе прэзідэнт — Мікола Серабракоў, мой сябра дзяцінства, працягнуў нашай артыстычнай «камандзе» руку дапамогі. А склад групы быў невялікі: спявачка Іна Афанасьева, кампазітар Зміцер Яўтуховіч, паэт Леанід Пранчак і я. Усе мы, дарэчы, прадстаўлялі не толькі самі сябе, але і Дзяржаўны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь, якім кіруе Міхаіл Фінберг.

**— Ваш «квартэт» аказаўся ўдала ўкамплектаваны творцамі песеннага жанру. Мусіць, і там у кожнага былі свае абавязкі?**

— Мы працавалі зладжана. Кожны мог у поўнай меры выявіць сваю творчую індывідуальнасць: спевакі — паказаць голас, вакальныя здольнасці; паэт — пазнаёміць з вершамі; кампазітар — захапіць сваёй музыкай. Разам з тым, мы імкнуліся на кожным канцэрце працаваць у суладдзі, дапаўняючы адзін аднаго. Зміцер Яўтуховіч акампаніраваў, Лёня Пранчак вёў канцэрты, на якіх не толькі распавядаў пра кожнага з нас і аркестр, але і стараўся расказаць пра культурнае жыццё Беларусі. Вельмі дапамагаў Яўген Магаліф: акампаніраваў разам са Зміцерам, забяспечыў нас музычнымі інструментамі, а камплект гукаўзмацняльнай апаратуры даў нам Алекс Мартыновіч.

Мы падрыхтавалі праграму з песень сучасных беларускіх кампазітараў. Але, калі прыехалі ў Амерыку, нам давялося значна перапрацаваць яе. Таму што больш за ўсё нашыя слухачы хацелі пачуць беларускія народныя песні і тыя творы, якія даўно лічацца песеннай класікай: «Мой родны кут», «Зорка Венера», «Нёман», «Люблю наш край». Хаця і сучасныя песні прымаліся добра, асабліва эмацыянальна — «Даставай, Язэп, гармонік», «Толькі ўчора». А песня В.Раінчыка і Л.Пранчака «Жыве Беларусь!» успрымалася як гімн Беларусі. І ўвогуле нашы канцэрты праходзілі ў атмасферы цёплай і эмацыянальнай. Людзі не проста горача віталі нашы песні, але падыходзілі да нас пасля канцэртаў, запрашалі ў госці, імкнуліся пагаварыць пра наша жыццё, пра нашу творчасць. А Іну Афанасьеву называлі за яе артыстызм, абаяльнасць «Беларускай Мадонай».

**— Ваша праграма гучала толькі па-беларуску?**

— Так, інакш і не магло быць. У Саўт Рыверы, у Кліўлендзе, у Іст Брансвіку, на канцэрце ў ААН, прысвечаным юбілеям Я.Купалы і Я.Коласа, куды нас запрасіў Генадзь Бураўкін — паўсюль, дзе мы выступалі, нас ахінала атмасфера беларускай мовы. Тое, як у эмігрантаў шануецца родная мова, як яны ганарацца ёю, захоўваюць спадчынныя традыцыі, не магло нас не ўразіць. На жаль, тут, на Беларусі, нам усім далёка да такога высокага ўзроўню нацыянальнай свядомасці.

**— Раскажыце, калі ласка, што ўяўляе сабой беларуская дыяспара Саўт Рывера, у якіх умовах яна існуе?**

— Саўт Рывер, як я ўжо казаў, — цэнтр беларускай дыяспары. Сам горад невялікі, жывуць тут не ў высозных гмахах, а ў катэджах. Беларусы пабудавалі царкву Св.Ефрасінні Полацкай, зрабілі выдатны клуб, дзе за кубачкам кавы ці добрага піва збіраюцца пагутарыць, абмеркаваць жыццёвыя і эміграцыйныя пытанні. Менавіта ў клубе ладзяцца нацыянальныя святы, канцэрты, сустрэчы. Летась у Саўт Рыверы праходзіла XX сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі і Канады. Мы мелі гонар выступаць перад удзельнікамі яе ў вялікім зборным канцэрце разам з такімі вядомымі артыстамі, як Валянціна Пархоменка, Алесь Казак, Таццяна Мархель, бард Сокалаў-Воюш.

У «цэнтры», гэта значыць у клубе, ёсць беларускія эміграцыйныя і нашы выданні. Кіраўнік беларускага цэнтра Жорж Навумчык.

**— Мусіць, эмігранты, пра якіх Вы расказваеце, у асноўным, людзі сталага веку. Яны яшчэ помняць радзіму, таму, можа, з такой трапятлівасцю і замілаваннем ставяцца да роднай мовы, да нацыянальных традыцый. Яны помняць іх, таму і жывуць імі, каб не абрывалася ўнутраная сувязь з Беларуссю. А вось як жа моладзь? Ці адчувае яна тое ж?**

— Канешне, у асноўным, беларушчына — гэта справа і любоў сталых людзей. Маладыя людзі, якія выраслі ўжо на амерыканскай зямлі, значна менш пачуваюцца беларусамі. Правільней было б сказаць: яны — амерыканцы беларускага паходжання. Праўда, ёсць і выключэнні. Напрыклад, сын Уладзіміра Бычкоўскага — Дзмітрый — цудоўна размаўляе па-беларуску і як музыкант-прафесіянал удзельнічае ў вечарынах, нацыянальных святах — «забавах», як называюць іх там.

**— Ці даюць сённяшнія эмігранты, якія прыязджаюць у Амерыку з Беларусі, свежыя сілы беларускай справе? Яны натуральна ўліваюцца ў эміграцкае асяроддзе ці ўсё ж савецкае выхаванне атруціла іх антынацыянальным духам?**

— Пытанне не такое і простае. Калі ў Амерыку прыязджаюць такія творчыя асобы, як Валянціна Пархоменка, Сокалаў-Воюш, Леанід Барткевіч, — натуральна, што для іх беларускае асяроддзе роднае і блізкае. Яны і там — індывідуальнасці, «зоркі». А калі з'яўляюцца людзі без адчування нацыянальных каранёў, яны — чужыя беларускай дыяспары. Хаця беларускі клуб у Саўт Рыверы не закрыты для людзей іншых нацыянальнасцей. Нікога, як гаворыцца, у спіну не выпіхваюць, у пашпарт не зазіраюць. Можа стацца, што чалавек знойдзе сябе праз настальгічную аўру беларускасці, якая пануе ў адносінах сталых эмігрантаў, і далучыцца да радзімы праз усведамленне аддаленасці ад яе. Працэс гэты ўзаемадзейсны і няспынны. Пакуль жыве беларуская ідэя, а яна жыве глыбока ў душах і ў справах эміграцыі, будзе энергія Адраджэння лунаць паміж двума мацерыкамі.

**— Мне застаецца пажадаць Вам новых творчых поспехаў. Хацелася б, каб беларускае мастацтва адраджалася, мацнела і спатаяла не толькі тых, хто жыве на роднай зямлі, а нашых былых суайчыннікаў. Дзякуй Вам за гаворку.**

**«Віцебск. Восьмага студзеня г.г. адбыўся тут першы канцэрт паноў М.Сакалоўскага, гітарыста, і А.Хадэцкага, фартэпіяніста. Прымалі артыстаў з бязмежным захапленнем. Ад начальніка губерні да браціі шляхты, усё, што магло захапіцца духоўным хараством, адкрывала душу для мілых гасцей. Артысты сваім талентам аддзячвалі за сардэчны прыём. Цяпер, пасля ад'езду артыстаў, надышла цішыня — можа, на вельмі доўга...» — так пісаў у 1860 годзе беларускі пісьменнік Арцём Вярыга-Дарэўскі пра прыезд у Віцебск славутага славянскага гітарыста Марка Конрада Сакалоўскага.**

# ВІЦЕБСКІ «МЕНЕСТРЭЛЬ»

На зыходзе лістапада пазамінулага года разам з салістамі ансамбля «Класік-Авангард» мне давялося прымаць удзел у віцебскім фестывалі «Памяці Салярцінскага». Пасля аднаго з канцэртаў да нас у гасцініцу завіталі мясцовыя аматары класічнай гітары. Падчас размовы з боку віцябчан неаднойчы прасачылася думка, маўляў, прыезд прафесійнага гітарыста ў горад — з'ява даволі рэдкая. І няхай даруе паважаны чытач за падобныя сантыменты, але быццм бы з мінулага стагоддзя адгукнуліся тады словы дзвінскага дудара: «Пасля ад'езду артыстаў надышла цішыня — «можа, на вельмі доўга».



Выкладчык Беларускай акадэміі музыкі Яўген Грыдзюшка

Сёння ж магу толькі ўявіць, якім было здзіўленне маіх новых сяброў (няменшым яно было і ў мяне), калі літаральна праз тры месяцы дзвінская сталіца нагадала пра сябе новым фестывалем выканаўцаў на класічнай гітары. Не маючы магчымасці прыехаць, цешыўся надзеяй, што народжанае свята — не ў апошні раз (дарэчы, пра першы віцебскі фэст «Менестрэль» распавёў у сакавіцкім нумары «Культуры» за мінулы год выпускнік Беларускай акадэміі музыкі гітарыст Фёдар Волкаў). Свята адбылося роўна праз год, 25 лютага Віцебск сустракаў знакамітых гасцей: заслужанага артыста Расіі Мікалая Камалятава, сусветна вядомага кампазітара і гітарыста Мікіту Кошкіна, лаўрэата Міжнародных конкурсаў



Дзімітрыс Рэггінос (Кіпр)

Уладзіміра Тэрво, які прыехаў на фестываль разам з сынам Леанідам — нядаўнім пераможцам юнацкага міжнароднага спаборніцтва ў Варонежы, адну з вядучых сучасных выканаўцаў на рускай сяміструннай гітары Анастасію Бардзіну, саліста Санкт-Пецярбургскай філармоніі Міхася Радзюкевіча, гітарны дуэт з Данецка — братоў Паўла і Аркадзія Іваннікавых, выкладчыка Разанскага музычнага вучылішча Вадзіма Кузняцова, тульскага гітарыста Сяргея Руднева, студэнтаў Расійскай музычнай акадэміі імя Гнесіных — Яўгена Фінкельштэйна, Вадзіма Чабанава, Дзімітрыса Рэгіноса (Кіпр), Аляксандра Рэнгача, Ксенію Гітман. Беларусь на фестывалі прадстаўлялі выкладчык Беларускай акадэміі музыкі Яўген Грыдзюшка ды аўтар гэтых нататкаў. У тыя дні Круглая зала віцебскага Палаца прафсаюзаў ператварылася ў месца сапраўднага паломніцтва да гітары. Мяркуючы па апладысментах публікі, выступленне практычна кожнага ўдзельніка з'явілася адкрыццём. Лютневыя кампазіцыі Бакфарка, Даўленда, Баха, п'есы Джуліяні, Віла Лобаса, Фальі, гітарныя пераклады музыкі Бакерыні, Альбеніса, Гранадаса, Пуленка, Мусаргскага, арыгінальныя творы Кошкіна, Марэля, Паніна, Дзіэнса, Руднева, Альшанскага — вось той далёка не поўны пералік прагучаўшай анталогіі гітарнага мастацтва. Арганізатар свята спадарыня Марына Раманоўская на традыцыйнае пытанне — як узнікла ідэя правядзення фестывалю? — адказала:

— Два гады таму наш зямляк, студэнт Санкт-Пецярбургскага музычнага вучылішча імя Мусаргскага Віктар Максімаў пазнаёміў нас з гітарыстам Міхасём Радзюкевічам, ён і з'явіўся «хросным бацькам» фестывалю. Ажыццявіць ідэю ўдалося дзякуючы спонсарам: гандлёва-прамысловай кампаніі «Элцік», камерцыйным фірмам «Экспо» і «Альтэрнатыва», а таксама гарадскому музычнаму таварыству. Марым аб тым, каб «Менестрэль» стаў традыцыйным штогоднім святам.

Неабходна дадаць, што Віцебская кампанія «АРТ МАРК» у асобе прэзідэнта М.Г.Рамаоўскай заключыла кантракт з усімі ўдзельнікамі фестывалю на запіс падвоенага дыска.

У нядзелю адгучалі апошнія акорды «Менестрэля». Гасцінны Віцебск развітваўся з артыстамі. Пасля іх ад'езду надышла цішыня... Будзем спадзявацца, ненадоўга.

**Валерый ЖЫВАЛЕЎСКІ,**
**старшы выкладчык**
**Беларускай акадэміі музыкі.**

**Фота С. БУРАВА.**



Лаўрэат Усерасійскага і міжнародных конкурсаў Уладзімір Тэрво




# АДАМКНІ ЗЯМЛІЦУ, ВЫПУСЦІ РАСІЦУ...

## ЮР'Я

6 мая па новым стылі (23 красавіка) — дзень святога Юр'я, свята, якое беларусы раней шырока адзначалі. Юр'я, Ягорый (па-руску Георгій) — адзін з самых паважаных святых не толькі ў славян, але і ў многіх народаў Еўропы. Юр'еў дзень асаблівы. У некаторых месцах менавіта ён лічыўся днём сустрэчы вясны. Юрый (Георгій) - Пераможца ва ўяўленні народа быў маладым, прыгожым, адважным юнаком. На абразах яго малявалі заўсёды ва ўбранні воя на кані, з кап'ём у руцэ. Гэта ён забівае страшнага цмока, аслабаняючы зямлю ад ворагаў, рознай нечысці, ён нясе людзям мір і спакой, магчымасць плённа працаваць. Георгій-Пераможца быў намаляваны на гербе Масквы, у гонар яго названы Георгіеўскі крыж — вайсковая ўзнагарода, якую атрымлівалі воіны за асаблівую адвагу, яго адбітак быў на рускіх манетах.

У народзе Юр'я лічыўся заступнікам свойскіх і дзікіх жывёл і звяроў, ахоўнікам палёў. На Юр'я першы раз пасля зімы выганялі на пашу скаціну. Рабілася гэта звычайна ўранні, каб выгнаць жывёлу на ранішнюю расу. Верылі, што менавіта ў гэты дзень Юр'я на кані аб'язджае палі і бярэ пад ахову свойскую жывёлу, таму так і спяшаліся выгнаць кароў, коней, авечак на пашу. Выганялі, злёгку пастукваючы галінкай свянцонай вярбы, што захоўвалася ў кожнай гаспадарцы з Вербнай нядзелі. Свянцонай вярбе прыпісваліся магічныя якасці: яна нібы адганяла нячыстую сілу, чараўнікоў, засцерагала ад хвароб, была сімвалам здароўя і добрага росту ўсяго жывога.

На Юр'я абавязкова хадзілі на палі паглядзець, як растуць азімыя. Абыход палёў у беларусаў — звычай вельмі старажытны і вядомы па ўсёй Беларусі. Там жа, на ніве, падсілкоўваліся прынесенымі з сабой стравамі, сярод якіх мусіў быць хлеб і мясныя косткі ад Вялікадня. Рэшткі ежы закопваліся ў зямлю, нібы пачастунак, каб і яна не скупілася на ўраджай. У полі пелі песні:

*Божа наш, святое Юр'я,*
*Ідзі да Бога, вазьмі ключы,*
*Вазьмі ключы, адамкні зямлю,*
*Адамкні зямлю, выпусці расу.*
*На Юр'я-расу бычка напасу.*
*«Бычок-трацячок, ці поўны бачок?*
*Цялушачка-дравушачка,*
*ці поўнае ў цябе брушачка?»*

Гэтыя песні так і называюцца — юраўскія (юр'еўскія). І зараз яшчэ іх памятаюць людзі старэйшага пакалення, што жывуць у вёсках і захоўваюць нашы традыцыі:

*Падай, Юрыла, ключы і замкі*
*Адамкнуці красну вясну,*
*Красну вясну,*
*Цёпла лецейка,*
*Цёпла лецейка,*
*Спела жыцейка.*

Беларусы, ды і рускія, і украінцы лічылі, што юр'еўская раса мае цудадзейную сілу, бо сам святы Юр'я адмыкаў зямлю і выпускаў цёплую расу, якая спрыяла росту і ўрадлівасці, давала здароўе.

Нездарма ж лічыцца так карысна пахадзіць па цёплай расе басанож ці нават пакачацца па ёй, памыць твар, каб быць прыгожым. Толькі ці зможам мы гэта зрабіць зараз пры цяперашніх экалагічных умовах, ці пабегаюць нашы дзеці па расе, ці пад летнімі кіслотнымі дажджамі без рызыкі для здароўя?!

На Юр'я ладзілася некалі цікавае свята пастухоў і існаваў спецыяльны абрад, мэтай якога было захаванне жывёлы з дапамогай магічных дзеянняў. Наогул роля пастухоў у сялянскім жыцці была вельмі важнай. Пастуху ж гаспадары давяралі сваю жывёлу, ад яго залежала, ці будзе яна жывой, здаровай, укормленай. Пастух павінен быў ведаць, як лячыць жывёлу ў выпадку хваробы, нават умець загаворваць ад укусаў змяі, пры параненнях і г.д. Плату ж пастух атрымліваў звычайна ад кожнага гаспадара ў выглядзе натуральных прадуктаў пры разліку ўвосень, а таксама харч ад гаспадароў на працягу ўсяго тэрміну выпасу. Пастухамі ў вёсках звычайна былі адны і тыя ж людзі на працягу многіх гадоў, мяняліся толькі падпаскі, якія выраслі, а замест іх прыходзілі іншыя. Даўней кожны беларускі хлопец з вёскі добра ведаў, што такое быць падпаскам.

А свята пастухоўскае было такое: напасвіўшы жывёлу ўдзень, пастухі ўвечары на Юр'я хадзілі па вёсцы і збіралі яйкі, малако, сала. Вярталіся на пашу, распальвалі агонь, гатавалі яечню. Жывёлу зганялі ў круг, адзін з пастухоў браў патэльню з яечняй і абыходзіў жывёлу. Іншыя пастухі і падпаскі выконвалі ролі звяроў (зайца, ваўка), птушак (зязюлі), людзей (крывога), прадметаў (калоды) і інш. Той, хто вадзіў з яечняй, пытаўся: «Заяц, заяц, ці горка асінка?» — «Горка!» — «Няхай жа наша скацінка так будзе горка воўку». Вядучы працягваў пытаць: «Крывы, крывы! Ці дойдзеш ты?» — «Не, не дайду, не бачу!» — «Няхай жа воўк не ўбачыць нашай скаціны». — «Калода, калода! Ці павернешся ты?» — «Не, не павярнуся». — «Няхай жа воўк не павернецца да нашай скаціны...» Звярталіся і да зязюлі: «Зязюлька, зязюлька! Прыкувай нашу скаціну, каб яна не разбягалася». — «Прыкуваю».

Абышоўшы жывёлу, садзіліся каля агню, з'ядалі яечню і кідалі ўгору лыжкі, прыгаворваючы: «Штоб наша скаціна так угору скакала». Сэнс гэтага абраду відавочны. У ім, як і ва ўсіх абрадах, што звязаны з земляробчым сялянскім календаром, вельмі выразна выяўляецца вера ў магчымасць з дапамогай магіі слова і дзеяння паўплываць на злыя сілы, засцерагаючыся ад іх.

**Г.ПЯТРОЎСКАЯ,**
навуковы супрацоўнік
Інстытута мастацтвазнаўства,
этнаграфіі і фальклору АН РБ.



## СВЯТА ПАСТУХОЎ

*Вёска Старыя Дзевяткавічы Слонімскага раёна.*

*Сялянскі падворак.*

**Гаспадыня:** Іван! Пойдзем яйка пакладзем у варотах, каб кароўка наша, пераступіўшы яго, была круглая і поўная.

**Гаспадар:** Так, так. Трэба яшчэ пад браму замок пакласці, каб зберагчы статак ад ваўкоў. *(Ідуць і кладуць.)*

**Гаспадыня:** Ну вось. Усё гатова. Пойдзем комін абыходзіць. *(Гаспадар з гаспадыняю бяруць акраец хлеба і з ім тройчы абыходзяць наўкол коміна.)*

**Гаспадар:** Як печ стаіць на месцы, так штоб і скаціна хадзіла на месца!

**Гаспадыня:** Цяпер, Іван, можна і скаціну з хлява выганяць. *(Ідуць і выганяюць кароў на падворак. Гаспадар, узяўшы ў рукі накрытую талерку, на якой была замацавана грамнічная свечка і ляжала пара яек, абыходзіў наўкола. Услед за гаспадаром ішла гаспадыня з гаршком, напоўненым вуголлем і святаянскай травой, і абкурвала жывёліну.)*

*На падворак уваходзіць падпасак.*

**Падпасак:** Добрай раніцы, гаспадар з гаспадыняю. Выганяйце жывёліну на Юр'еву расу. Юр'ева раса ад нядобрага вока, ад сямі хвароб.

**Гаспадар:** Добрай раніцы! Заходзь, калі ласка!

*(Падпасак заходзіць на падворак і стараецца лёгка ўдарыць вербачкай, захаванай з Вербніцы, кожную жывёліну.)*

**Гаспадар:** Ну, а зараз утыркні вярбу ў падстрэшак хлява, для таго каб жывёла заўсёды ў час вярталася дахаты.

*(Пасля гэтага гаспадары разам з падпаскам гоняць кароў на пашу да пастуха. Гаспадыня бярэ яйкі, каб адарыць пастуха.*

*На пашу з усіх двароў падпаскі падганяюць жывёлу. З імі разам ідуць гаспадары. На полі стаіць стол з абразом, цэбрык са святою вадою. Там чакаюць пастух і святар.)*

**Гаспадар:** Дзень добры, ніва святая! Віншуем з хлебам-соллю і з святым Юр'ем, каб Бог Найвысшы і святы Юр'я пацешыў нас пагодаю і здароўем.

*(Святар пасвячае ваду, потым служыць малебен св.Юр'ю і акрапляе статак святою вадою. Пасля асвячэння статка абходзяць поле з асвячонай вярбой і ўтыркаюць яе ў зямлю са спадзяваннем, што абароняць ніву ад граду. Гаспадыня чытае замову.)*

**Гаспадыня:** Уставала я ранюсенька, умывалася бялюсенька, выганяла я кароўку ў зялёную дуброўку, на Юр'еву роску, на мікульную траўку, на скацёрку-атаўку, у чыстае поле.

У чыстым полі стаіць прыстол. На прыстоле сядзіць святая маці, прачыстачка-багародзіца і дзяржыць на прыполі Ісуса Хрыста, і накрывае чорнаю рызаю. Як Ісусу Хрысту з чорнае рызы не ўставаць, так блудніку-самаблудніку каля маёй каровы не бываці, з маёй кароўкі плоду, малачка не браці. Мая кароўка будзе ўросная, праросная, і будзе добра малосная. Будзе па чысту полю пахаджаці і капыцікамі траўку збіваці, і роску злізваці, і сваёй гаспадыні малако збіраці. Кароўка пажытак, малачко на прыбытак.

**АМІНЬ!**

*(Гаспадары прыносяць да пастухоў яйкі, малако. Распальваюць агонь, над ім вешаюць кацёл і выліваюць у яго прынесенае малако, пасля разбіваюць яйкі. Атрымліваецца яечня на ўсіх. Зняўшы кацёл з агню, пастух праводзіць гульню з падпаскамі. Яны прадстаўляюць Зайца, Сляпога, Крывога, Замок, Калоду.*

*Пастух расстаўляе ўсіх кругом статка, пасля бярэ прыгатаваную яечню і ідзе з ёю, спярша пытаецца ў Зайца: «Заяц, Заяц, ці горка асіна?» Адказ: «Горка». — «Дай Бог, каб і наша скаціна для звера была горка». У Сляпога: «Сляпы, ці бачыш ты?» Адказ: «Не бачу». — «Каб і ваўкі не бачылі нашу скаціну». У Кульгавага: «Кульгавы, ці дойдзеш ты?» Адказ: «Не дайду». — «Дай Бог, каб і звер не дайшоў да нашай скаціны». У Замка: «Разамкнешся?» Адказ: «Не разамкнуся». — «Дай Бог, каб у звера зубы не разамкнуліся на нашу скаціну». У Калоды: «Калода, Калода, павернешся?» Адказ: «Не павярнуся». — «Дай Бог, каб звер не паварочваўся да нашай скаціны».*

*Потым пастух разам з падпаскамі частуюць усіх прысутных яечняй. Свята працягвае гульнёвая праграма, карагоды, юр'еўскія песні («Святы Юрый, бацюшка», «Мы круг поля ходзім», «Святы Юрый, божы ключнік», «Да святы Юрый», «Юрый, уставай рана» і іншыя.*

**Мікола АДАМЧЫК,**
**метадыст Слонімскага РНМЦ.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ІПАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП,
Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ,
А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ,
В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ,
В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Віталь ТАРАС
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Камп'ютэрная вёрстка — Віктар ДНЯПРОЎСКІ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875
Агульны наклад 11127
Замова 15

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

